**№ 216 (338)**

Чацвер, 4 снежня 1997 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

# Народная Воля



**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 8.06 | 15.34 |
| Магілёў | 7.58 | 15.41 |
| Гомель | 7.48 | 15.45 |
| Мінск | 8.09 | 15.51 |
| Гродна | 8.23 | 16.08 |
| Брэст | 8.15 | 16.16 |

*Першая квадра 7 снежня.*



# В предзимье к нам опять прилетал Черномырдин... Неужто нам опять год бедовать да маяться?



Глава российского правительства Виктор Черномырдин на заседание Исполкома Союза Беларуси и России опоздал почти на полгода. По уставу этот орган обязан заседать ежемесячно, но собирался он в последний раз под эгидой Виктора Степановича аж в июле 1997 года. В декабре председатель Исполкома В.С.Черномырдин сподобился-таки возглавить его заседание, что соответствующим образом характеризует уровень заинтересованности Российской Федерации в совместных делах. Два раза в год, летом и зимой, Кремль вспоминает о союзной Республике Беларусь.

Итак, 2 декабря 1997 года состоялась систематически откладывавшаяся встреча высокого московского гостя с президентом Беларуси Александром Лукашенко. Она уже описана, освещена и отражена прессой. Пока в тот день длилась та беседа, в государственной резиденции в Войсковом переулке Минска упорно ждали своего заветного часа журналисты, которых Администрация белорусского президента милостиво аккредитовала на пресс-конференцию Виктора Черномырдина: она тоже не то передвигалась во времени, не то задерживалась, не то откладывалась.

Впрочем, журналисты всего мира давно убедились в том, что расспрашивать Виктора Степановича о чем бы то ни было по меньшей мере бесполезно. Даже о конкретных предметах российский премьер ухитряется говорить абсолютно обтекаемо. А уж о еще необустроенном двухстороннем Союзе, о почти условной "четверке" и необозримом аморфном СНГ такому неподражаемому мастеру уклончивого слова тем более легко ровным счетом ничего не сказать, поскольку фактически они не функционируют, а большей частью лишь значатся на бумаге.

К тому же печально памятен визит Виктора Черномырдина в предзимье 1996 года. Явился он тогда в Минск вместе с сенатором Егором Строевым и думцем Геннадием Селезневым. И тоже дорогих гостей белорусы встречали с открытой душой и хлебом-солью. А что сделала та тройственная "рука Москвы"? По сути сделала нашу жизнь еще хуже, усугубив политический кризис. Она односторонне, без учета белорусских реалий, поддержала президента Лукашенко, предопределила разгон законно избранного Верховного Совета 13-го созыва и заложила основы изоляции республики со стороны цивилизованного мирового сообщества.

Вспоминая минувшее, как не разволноваться по поводу плохой приметы? К нам опять прилетал Черномырдин... Как не задаться риторическим вопросом: "Неужто нам опять год бедовать да маяться?"

**Людмила МАСЛЮКОВА.**

**Гістарычныя паралелі**

## Яшчэ адна аплявуха

Набліжаецца васьмідзесяцігоддзе Усебеларускага з'езду. І надышоў час успомніць пра адну з гераінь гэтага з'езду — беларуску Зінаіду Юр'еву. Яна ўвайшла ў гісторыю тым, што быццам бы пабіла п'янага каменданта мінскага гарнізона Мікалая Крывашэіна, які спрабаваў разагнаць Усебеларускі з'езд 1917 года. Працяг гэтай падзеі быў даволі цікавы. Крывашэін падаў у суд на рэдактара газеты Злобіна, у якой было напісана, што Юр'ева пабіла Крывашэіна за тое, што той хацеў разагнаць з'езд, а таксама што ён у п'яным выглядзе сказаў ёй: "А ты, прыгажуня, паедзеш са мной у аўтамабілі".

Адбыўся суд, рэвалюцыйны трыбунал, на якім уся гэтая сітуацыя падрабязна разбіралася. У выніку Крывашэін прайграў справу. Матэрыялы аб гэтым друкаваліся ў незалежным на той час выданні — "Мінскай газеце". На жаль, аб Зінаідзе Юр'евай, акрамя "справы з аплявухай", ніякіх даных у гісторыі не захавалася...

Вось такія гістарычныя паралелі. Паглядзім, чым завершыцца сітуацыя з заявай ад следчага пракуратуры Цэнтральнага раёна Мінска Валянціна Магарыла аб узбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да намесніка рэдактара газеты "Імя" Ірыны Халіп.

Гісторыя паўтараецца...

**Ганна СОУСЬ.**

**Вострая тэма**

# У калгасе няма такой сілы, якая б прымусіла чалавека добра працаваць. Чаму тады Беларусь не ідзе на аграрныя рэформы?

Сёння ўжо ніхто не адмовіць, што эканамічны, палітычны і духоўны крызіс на Беларусі паглыбляецца. На ўсё растуць цэны, падае рэнтабельнасць суб'ектаў гаспадарання, расце злачыннасць. Усё гэта пагаршае жыццё людзей. Найбольш абяздоленымі сталі вяскоўцы. Афіцыйная прапаганда нам даказвае, што мы бедныя на прыродныя рэсурсы. Гэта вялікая хлусня.

Ёсць у нас нафта і вугаль, калійныя і мінеральныя солі, торф і граніт, жалеза і золата. Толькі калі торф, граніт, нафту, угнаенні мы даўно навучыліся здабываць, то жалезныя і залатыя запасы ў нас яшчэ некранутыя. Каштоўным багаццем з'яўляюцца азёрныя сапрапелі. Па запасах лесу мы апярэджваем большасць краін Еўропы. А галоўнае наша багацце — зямля.

У Беларусі на душу насельніцтва прыпадае два гектары тэрыторыі, амаль па адным гектары сельгасугоддзяў і па шэсцьдзесят дзве соткі ворнай зямлі. Па апошнім паказчыку мы пераўзыходзім Германію ў пяць, а Японію ў дваццаць разоў.

Але зямля сама багацця не дае. Ёй патрэбен гаспадар.

Праблема гаспадара зямлі ў нас мае даўнюю гісторыю. Неўзабаве споўніцца сто гадоў, як у Расійскай імперыі пачалася сталыпінская рэформа.

Пётр Сталыпін спачатку ўзначальваў дваранства ў горадзе Коўна, а потым працаваў гродзенскім губернатарам. На прыкладзе заходняга землекарыстання ён упэўніўся ў яго перавагах перад расійскай абшчынай. У 1904 годзе ён пісаў цару: "Абшчына — зло, яна тармозіць развіццё сялянскай гаспадаркі, нішчыць ініцыятыву, прадпрымальнасць, а адзіная процівага абшчыннаму пачатку — аднаасобная ўласнасць".

Сацыялісты ўбачылі, што сталыпінская рэформа разбурае той падмурак, на якім яны будавалі сваю ўтапічную тэорыю. Яны арганізавалі яго забойства. Але механізм зямельнай рэформы ўжо быў запушчаны. Вось першы вынік. У 1913 годзе Расія сабрала збажыны больш, чым ЗША, Канада, і Аргенціна разам узятыя. Прыбытак ад продажу сметанковага масла ў два разы перавышаў кошт гадавой здабычы сібірскага золата. Кастрычніцкі пераварот прыпыніў гэты працэс.

Сімвалічна, што менавіта ў Саратаўскай губерні, на радзіме Пятра Сталыпіна, пачалося адраджэнне зямельнай рэформы ў Расіі. Там губернская дума прыняла закон аб куплі-продажы зямлі.

А што робіцца ў нас, на Беларусі? На нашых вачах разбураецца падмурак дзяржаўнасці, аплёўваюцца наша гісторыя і культура, душыцца беларуская мова. Такія ж адносіны цяперашняй улады да зямельнай рэформы. Яна топталася на месцы пры Кебічы, а з прыходам Лукашэнкі да ўлады наогул пачаўся рух назад. Вось некалькі аргументаў.

Трэба напомніць адзін факт, які прайшоў амаль незаўважаным нават для незалежнай прэсы. А менавіта ён быў першым крокам на шляху ўсталявання дыктатуры. 6 лютага 1995 года прэзідэнт А.Лукашэнка падпісаў указ № 51. Указ патрабаваў раённым вертыкальшчыкам заключыць кантракт з кіраўнікамі недзяржаўных форм уласнасці — старшынямі калгасаў і іншых калектыўных гаспадарак. Выбары старшынь калгасаў цяпер не маюць сэнсу. Гэтым указам былі знішчаны рэшткі калгаснай дэмакратыі і канчаткова ўсталёвана прыгоннае права на вёсцы. Эканамічная свабода для калгасаў была пахавана.

Адкат зямельнай рэформы праявіўся і ў развіцці фермерства. За гады праўлення Лукашэнкі фермерства прыпыніла свой рост. Больш таго, штучныя перашкоды чыноўнікаў, варожасць калгаснага кіраўніцтва і адсутнасць падтрымкі з боку дзяржавы прымусілі каля пяцісот гаспадарак прыпыніць сваю дзейнасць.

Трэба прызнаць, што апошнім часам многія калгаснікі павялічылі памеры сваіх прысядзібных гаспадарак. На першы погляд, гэта адзін з накірункаў зямельнай рэформы. На самой справе, выдзяляючы зямлю вяскоўцам, улада ажыццявіла канкрэтныя мэты:

па-першае, прымусіла калгаснікаў, як і пры Сталіне, жыць за кошт прысядзібнай гаспадаркі, а ў калгасе працаваць амаль бясплатна, адрабляць паншчыну;

па-другое, моцна прывязала вяскоўцаў да калектыўнай гаспадаркі, бо, атрымаўшы гектар зямлі, селянін трапляе ў кабалу: апрацаваць зямлю без калгаснай тэхнікі немагчыма;

па-трэцяе, вырашыла праблему харчавання не толькі для вяскоўцаў, але і для многіх гараджан. Ужо стала традыцыяй, што гараджане едуць да сваіх бацькоў і сваякоў вясной — на пасяўную, летам — на нарыхтоўку сена, а восенню — капаць бульбу і буракі. А дамоў заўсёды вяртаюцца з торбай сала.

Цяперашняя ўлада і прэзідэнт асабіста з гонарам заяўляюць аб стабільнасці на Беларусі, прыпісваючы яе сваёй палітыцы. Я глыбока ўпэўнены, што галоўным фактарам стабільнасці з'яўляецца менавіта гэтая вясковая торба сала. Без яе краіну даўно ўжо трэслі б шматлікія канфлікты галодных людзей.

Уся дзейнасць вяскоўцаў накіравана не на эфектыўную эканоміку, а на выжыванне. Людзі прыстасоўваюцца да новых умоў жыцця. Не спадзеючыся на калгасную тэхніку, некаторыя майструюць самаробныя трактары, другія купляюць тэхніку ў складчыну, а большасць стараюцца прыдбаць коніка. У 1980 годзе ў прыватным сектары было ўсяго 800 коней. Далей пайшоў рост: 1991 год — 20 тысяч, 1993 год — 47 тысяч, 1996 год — болей за 70 тысяч.

Павялічыўшы землі прыватна-сямейнага сектара, улады адцягнулі зямельную рэформу і часова прыпынілі банкруцтва калгаснага ладу. Разам з тым яны садзейнічалі росту моцнага канкурэнта калгасна-саўгаснай сістэмы. На сённяшні дзень, па звестках статыстыкі, у краіне налічваецца 1.900.000 прысядзібных гаспадарак, 660.000 дачных участкаў, 300.000 участкаў для агародаў і 3000 фермерскіх гаспадарак. У валоданні гэтага сектара 1.430.000 гектараў зямлі, што складае 15,8 працэнта зямельнага фонду Беларусі. У 1994 годзе прыватна-сямейны сектар вырабіў 40 працэнтаў сельгаспрадукцыі, у 1995 годзе — 45 працэнтаў, а ў 1996 годзе ўпершыню дасягнуў вытворчасці прадукцыі больш за палову (!). Усё гэта сведчыць, што калгасная сістэма не мае перспектывы. Яна, валодаючы шырокімі палеткамі, моцнай тэхнікай і адукаванымі спецыялістамі, не адолела прысядзібную гаспадарку з яе вузкімі палоскамі зямлі і ручной працай. Прычына адна: на калгаснай зямлі няма гаспадара.

Але і прысядзібная гаспадарка не мае будучыні. Тут на адзінку прадукцыі сіл і часу траціцца больш, чым у калгасе. Жыццё вяскоўцаў можна смела параўнаць з катаргай. Пастаянная штодзённая праца без выхадных і святочных дзён, без водпускаў. Амаль усё робіцца ўручную. Проста вяскоўцы прыцярпеліся да такога жыцця.

Прысядзібная гаспадарка — гэта анахранізм у цяперашнім свеце. Яе бесперспектыўнасць даказвае і той факт, што нідзе ў цывілізаваных краінах такая форма гаспадарання не дзейнічае.

Падсумоўваючы сказанае, прыходзім да высновы, што самыя распаўсюджаныя формы гаспадарання на нашай зямлі ва ўмовах рынку нежыццяздольныя. Няўжо аграрная эліта не разумее, што мы рухаемся па бездарожжы ў тупік? Многія разумеюць. Вось факты.

У мінулым годзе напярэдадні так званага рэферэндуму А.Лукашэнка праводзіў вялікі сход. Там выступаў прэм'ер Міхаіл Чыгір і выказаўся за прыватную ўласнасць на зямлю. Але гэта быў "глас вопиющего в пустыне". Пераканаўшыся, што ніякіх рэформаў не будзе, ён пайшоў у адстаўку.

Васіль Лявонаў, былы міністр сельскай гаспадаркі і харчавання, стаў рэфарматарам. Неабходнасць і сутнасць рэформы ён выказаў адной фразай: "Калектыўнае павінна быць сумай прыватнага". Гэтая фраза заслугоўвае таго, каб стаць класікай пераходнага перыяду. Пад яго кіраўніцтвам ажыццяўлялася рэформа трох калгасаў на Капыльшчыне. Капыльскі эксперымент праводзіўся з дапамогай немцаў, з улікам вопыту рэфармавання сельгаскааператываў у былой ГДР. Там рэфармаваныя кааператывы сваёй эфектыўнасцю перавысілі заходнегерманскіх фермераў. Безумоўна, для нас такі вопыт уяўляў асаблівую цікавасць. Лявонаў спадзяваўся, што дачакаецца станоўчага выніку, пакажа рэфармаваныя гаспадаркі прэзідэнту і атрымае ад яго "дабро" на ўсеагульную рэформу. Не дачакаўся. Надзелі кайданы.

Старшыня знакамітага калгаса "Рассвет" Васіль Старавойтаў яшчэ чатыры гады таму зрабіў прысуд калгаснай сістэме. Ён сказаў: "У калгасе няма такой сілы, якая б прымусіла чалавека добра працаваць". Гэтая фраза гучала для дэмакратаў як сімфонія, а для наменклатуры яна была як чырвонаяануча для быка. Яго ненавідзелі, усяляк абражалі ў сродках масавай інфармацыі. Але ён рабіў сваю справу і рэфармаваў калгас. Цяпер ён у турме. Якія б абвінавачанні ні прад'яўлялі Лявонаву і Старавойтаву, нармальныя людзі разумеюць, што гэта расправа. Улада паставіла тры задачы: нанесці ўдар па першых парастках рэформы і рэфарматарах, запалохаць вертыкаль і старшынь калгасаў і паказаць цёмнаму электарату барацьбу з карупцыяй і злоўжываннямі.

На заканчэнне трэба сказаць, што альтэрнатывы рэформам няма. Але на шляху рэформаў адна вялікая перашкода — гэтага не разумеюць тыя, хто трымае ўладу ў сваіх руках. У гэтых умовах неабходна кансалідацыя грамадства, каб агульнымі намаганнямі пераканаць такіх гора-кіраўнікоў у іх памылках, а калі яны гэтага не зразумеюць, то на законных падставах адхіліць іх ад улады. Словам, на шляху рэформ не павінна быць перашкод.

**Яўген ЛУГІН,**
**старшыня Беларускай сялянскай партыі.**

**Задумайтесь!**

## И после этого они еще говорят о стабилизации

Еще со времен Верховного Совета 12-го созыва парламентарии и журналисты пользовались в Доме правительства одним буфетом. За его столиками, как теперь принято говорить, в неформальной обстановке брались интервью, не один раз здесь беседовали, что называется, за жизнь.

С авоськами депутатов в буфете видели только перед праздниками — тогда они получали здесь заказы. На днях, заглянув с коллегами на чашку кофе, мы были поражены — стоящие перед нами в очереди члены Палаты представителей отоваривались молоком. Кто брал три пакета, кто четыре, а один — даже шесть. И сразу вспомнились продуктовые пайки, сигареты, которые можно было взять тогда по нормальной цене в этом буфете, другие дефицитные продукты.

Печально, но нынешнее руководство Беларуси довело нас до того, что молоко нормальной жирности стало дефицитным продуктом. И не от жадности, а от наличия дефицита "палаточники" "разметают" его. Набивают молоком портфели, а потом идут в зал и говорят о... стабилизации экономики и политики республики.

В магазинах Минска сейчас днем с огнем не сыщешь сметаны привычной жирности, на Комаровском рынке в минувшие выходные некоторые продавцы запрашивали за килограмм картофеля до 20.000 рублей. Глядишь, через месяц-другой бананы дешевле будут, чем бульба.

А нам в это время рассказывают сказки о так называемой стабилизации. Побойтесь вы хоть Бога, господа!

**Владимир ГЛОД.**

**Демократия по-белорусски**

## Анатолий Лебедько переходит на полулегальную деятельность

На прошлой неделе отмечен повышенный интерес различных правоохранительных органов к персоне заместителя председателя ОГП А.Лебедько. Практически ежедневно в разное время суток люди в погонах и без них навещали квартиру опального депутата. Никаких вразумительных объяснений визитеры не давали. Вся мотивация действий сводилась к желанию "срочно увидеть Анатолия Владимировича". Примечательно, что такая страсть одновременно проявлялась у четырех лиц, представившихся милиционерами. Неизвестные пожаловались, что если увидеться не удастся, то они лишатся премии. Интересно, сколько стоит "скальп оппозиционера"?

В пятницу у квартиры Лебедько был организован пост в составе трех молодых людей. Милиция презентовала их как членов оперативного отряда "Тайфун". У "патриотически" настроенной молодежи наконец-то появилось реальное дело — следить за оппонентами власти. После "Тайфуна" осталась горка сигаретных "бычков", шелуха от семечек и плевки разочарования на стенах подъезда.

Сам Анатолий Владимирович Лебедько оценивает происходящее как фактор психологического воздействия на членов его семьи. "В этой ситуации ничего не остается, как перейти на полулегальную деятельность", — заметил политик.

**Чулі?**

## Прафсаюзныя актывісты метрапалітэна пачалі галадоўку

Першага снежня старшыня Дэмакратычнага прафсаюза транспартнікаў Уладзімір Макарчук і машыніст электрапоезда Васіль Садоўнікаў пачалі галадоўку ў знак пратэсту супраць наступлення на правы рабочых і прафсаюзаў. У звароце да прафсаюзаў краіны ўказваецца, што адміністрацыя метрапалітэна не выконвае ўмовы калектыўнага дагавора, адмаўляецца весці перамовы з дэмакратычным прафсаюзам транспартнікаў.

Удзельнікі акцыі пратэсту выставілі наступныя патрабаванні да начальніка Мінскага метрапалітэна:

1) выступіць са справаздачай аб выкананні калектыўнага дагавора;

2) распачаць перагаворы аб заключэнні калектыўнага дагавора і стварыць умовы для падрыхтоўкі яго праекта і ўдзелу ў рабоце камісіі прадстаўнікоў прафсаюза;

3) пералічыць прафсаюзныя ўзносы згодна з заявамі работнікаў.

Як стала вядома, абодва ўдзельнікі галадоўкі падтрымалі "Хартыю-97".

**Ігар КАВАЛЬЧУК.**

## Нацбанк вырашыў удакладніць палажэнні грашова-крэдытнай палітыкі

Адпраўлены на дапрацоўку праект Асноўных напрамкаў грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на наступны год. Гэта зроблена на чарговым пасяджэнні праўлення Нацыянальнага банка краіны. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ва ўпраўленні інфармацыі банка, у ходзе абмеркавання члены праўлення палічылі неабходным зноў вярнуцца да гэтага дакумента пасля ўдакладнення ў ім асобных палажэнняў з улікам зацверджаных указам прэзідэнта Беларусі важнейшых параметраў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 1998 год.

На пасяджэнні ў асноўным прыняты Палажэнне аб парадку прымянення мер уздзеяння да банкаў і нябанкаўскіх фінансавых арганізацый за парушэнне заканадаўства, якое рэгулюе банкаўскую дзейнасць, а таксама шэраг змяненняў і дапаўненняў у нарматыўныя дакументы Нацбанка.

Дадзена дабро расійскаму банку "Авангард" на адкрыццё свайго прадстаўніцтва ў Беларусі, а ў сувязі з рэарганізацыяй банка "Алімп" у сумесны беларуска-расійскі "Белгазпрамбанк" — на перарэгістрацыю яго з захаваннем выдадзеных раней ліцэнзій.

**БелТА.**

### Погода

4 декабря на большей части территории республики осадки, местами туман, гололед. 5 декабря кратковременный снег, слабая метель, на дорогах гололедица. Температура воздуха 4-го в течение суток -4...+1; 5-го — ночью -2...-7, днем 0...-5.

**Протест**

## Свободу "Свабодзе"

Совет Белорусской партии труда выражает решительный протест Госкомпечати и Высшему хозяйственному суду Республики Беларусь по поводу их антигуманного решения о закрытии газеты "Свабода". Мы считаем эти действия прямым нарушением как Конституции 1994 года, так и "президентской Конституции" 1996 года. Совет БПТ обращается ко всем политическим партиям, общественным организациям встать на защиту демократических основ нашего общества, на защиту прав и свобод граждан, в том числе и свободы слова и печати, гарантируемых Конституцией 1994 года, выразить общее требование к государственным органам — пересмотреть свое антидемократическое решение о закрытии газеты "Свабода".

**Александр БУХВОСТОВ,**
**председатель Белорусской партии труда.**

Народная Воля · 4 СНЕЖНЯ 1997 г.

**Роздум**

*22 кастрычніка на старонках "Народнай волі" быў надрукаваны артыкул Віктара Сіманскага "Абаронім сябе самі". Аўтар у катэгарычнай форме выказаўся наконт таго, што рэспубліцы не патрэбна столькі супрацоўнікаў праваахоўных органаў.*

*Сёння другі наш чытач, Аркадзь Кароткі, разглядае праблему больш спакойна і, можа, нават больш узважліва.*

# Каго беражэ "мая" міліцыя?

У Рэспубліцы Беларусь пражывае крыху больш за дзесяць мільёнаў чалавек. Іх правы, жыццё, гонар ахоўваюць сёння 125 тысяч міліцыянтаў — г. зн. па адным на 80 мірных грамадзян, незалежна ад узросту, прафесіі, сацыяльнага становішча. На ўтрыманне ахоўнікаў парадку і дысцыпліны бюджэтам на гэты год прадугледжана каля 1,6 трыльёна рублёў. Гэта без уліку асігнаванняў для ўнутраных войскаў, Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы пры прэзідэнце і яго службы бяспекі.

І каб лепш успрымалася прыведзеная вышэй лічба (1,6), назаву яшчэ дзве: тым жа бюджэтам на адукацыю і падрыхтоўку кадраў выдзелена 2,8 трыльёна рублёў, на сацыяльнае забеспячэнне — 2,4 трыльёна.

І яшчэ. У суседняй Польшчы на 40 мільёнаў насельніцтва паліцыянтаў усяго 80 тысяч чалавек.

Можна падумаць, што занадта беражэм мы сябе, шануем, даражым сабою.

Можна падумаць, што і надта высокі ў нас суверэнітэт чалавека.

Да месца, здаецца, будзе і такое меркаванне: на цяперашнім этапе грамадскага пераўладкавання на Беларусі вельмі кепска стала з усталяваннем прынцыпаў цывілізаваных паводзінаў, а таму тысяча-другая дадатковых дубінак у мускулістых руках укормленых сынкоў таго ж самага народа будзе вунь як да месца.

Падыдзе і такая версія: надта бяссільная наша Феміда, і пакуль яна набярэцца моцы, няхай хоць гэтыя малайцы ў плямнай дзяржаўнай вопратцы сімвалізуюць і дэманструюць яго вялікасць дзяржаўны Закон.

І вось яны ходзяць гуртамі па вуліцах нашых гарадоў і ўплываюць сілай улады на ўсіх і ўсё. І, безумоўна, выклікаюць у здольных думаць і разважаць справядлівую незадаволенасць, а значыць, негатыўна адбіваюцца на настроі ў грамадстве ў цэлым. Хіба ж людзі не разумеюць, што кожнага трэба абуць і апрануць, узброіць, аснасціць, навучыць хаця б элементарнаму ў абыходжанні са здабытай ахвярай у асобе затрыманага ці падазронага. Ну і заробак даць як мінімум у тры — пяць мільёнаў, адпаведныя сацыяльныя гарантыі — да прыкладу, бясплатны праезд, бесперашкоднае ўваходжанне ўсюды і г.д.

Канешне, парадак павінен быць. Зразумела і жаданне ўлад хутка яго навесці, прывучыць людзей да строгага выканання законаў. Але нельга не ўлічваць і таго, што ў нашых людзей надта вялікае сацыяльнае напружанне, і разлічваць, што ўтрымаць у паслухмянасці іх сілай гэтых самых сынкоў усё ж можна, — вельмі сумніцельна.

Ды наогул, ці тым парадкам пайшлі мы на зацвярджэнне і ўсталяванне агульначалавечых нормаў паводзінаў, на захаванне здаровага патэнцыялу народа? Калі арыенцірам выбрана дасягненне поўнай свабоды духоўнага развіцця, то як гэта стасуецца з тым, што мы маем у асобе яго прававога забеспячэння і суправаджэння?

Трэба ўлічваць і вось гэтую акалічнасць: за апошнія лічаныя гады наша грамадства згубіла занадта многа здабытых дзесяцігоддзямі духоўных і маральных каштоўнасцей, на ўзнаўленне чаго патрэбен час, і немалы. Адно вось гэта — прыніжэнне значэння духоўных пачаткаў. Гады, праведзеныя ў вакууме безуладдзя, пазбавілі надзейных гарантый правоў і свабод асобы, узбагацілі жыццё прымусам, нахабствам, нецярплівасцю, лёгкадумствам, авантурызмам.

Сусветны вопыт сведчыць, што змагацца з падобнага роду рэцыдывамі магчыма толькі законным шляхам, а не выкарыстаннем любых, без разбору, сродкаў. Вось тут і да месца паглядзець на нашу Феміду хаця б у агульных рысах — нават не вачамі юрыста-спецыяліста, а проста законапаслухмянага грамадзяніна. Нядужасць яе адчуваецца адразу. На яе нельга як след абаперціся, разумна выкарыстаць.

Як трапна заўважаў французскі філосаф Вальтэр, законы патрэбны не толькі для таго, каб запалохваць грамадзян, але і для таго, каб дапамагаць ім.

Нашы ж законы, як, дарэчы, і іншыя прававыя акты, па духу свайму ўстрашаючага характару. Якіх бы працэсаў і сфер жыцця яны ні тычыліся, заканадаўчае рэгуляванне занадта жорсткае. А гэта па сваёй сутнасці ўжо крыніца несправядлівасці. Значыць, яно не садзейнічае ўмацаванню ўлады, а, хутчэй, дыскрэдытуе яе. Бо крайнасці заўсёды абарочваюцца адным і тым жа, думаю, вядома чым. Ці не ад таго ў нас за 65 тысяч асуджаных і асоб пад следствам — па колькасці ледзь не яшчэ адна дзеючая армія. Перапоўнены турмы, калоніі, ізалятары. Такое ўражанне, што ў дзяржаўных улад пераважаюць памкненні ўнізіць сваіх грамадзян. Гэта ўжо ўвавідкі на тых жа апорных пунктах правапарадку ў мікраёнах гарадоў, дзе абыходжанне з затрыманым — узор таго ж самага насілля над асобай. Падобныя з'явы — у кожным аддзеле органаў правапарадку, на працягу ўсяго следства, дзе любыя сродкі прыдатныя. Тут і думак няма аб дапусцімым і недапусцімым.

На кожны пункт гледжання можа быць многа думак. У дадзеным выпадку мая асабістая такая. Каму хоць раз у жыцці даводзілася мець справу з нашымі праваахоўнымі органамі, той, не сумняваюся, яе падзяляе цалкам. Чыноўны люд гэтых структур на ўсіх узроўнях незалежна ад службовага становішча і звання ў большасці надта суровы і самаўпэўнены. Такое ўражанне, што ў кожным з нас, простых грамадзян, яны бачаць калі не злачынцу ў натуры, то патэнцыяльную асобу такога кшталту. Часам задумваешся: чаму так? Верагоднасць такіх паводзін нашых ахоўнікаў, відаць, і ў тым, што ў іх больш правоў. Але адна справа — мець права, а другая — рэалізаваць яго. Што ўвогуле не азначае ўладным націскам прыніжаць чалавечую годнасць і тым самым ставіць чалавека ў становішча нічога не значыўшай асобы перад вялікасцю ахоўніка правапарадку, узброенага да зубоў.

Гэта, скажам так, вывад з назіранняў на падставе некаторых уражанняў. І каб не выстаўляць нашу праваахоўную службу ў непрыглядным выглядзе (паверце, не такой я думкі), паспрабуем хоць колькі памеркаваць над вытокамі такой з'явы па сутнасці. Чаму ў кантэкст нашага сённяшняга жыцця ўсё гэта ўпісалася такім парадкам?

Імкнучыся да арганізацыйнай стабільнасці грамадства, нашы ўлады пайшлі шляхам прымусу да захавання нормаў права. Гэта пацягнула непамерны рост колькасці прымусоўцаў. Гатовых падрыхтаваных кадраў не было, а таму ў атрад іх патрапіла многа "паўфабрыкату", у выніку аб тактоўным і адпавядаючым законам спосабе ўзаемаадносін ахоўнікаў парадку з грамадзянамі ў шэрагу выпадкаў і гаварыць не даводзіцца. Спасцігнуць блытаніну нашай сённяшняй Феміды нават для прафесіянала няпроста. А калі ўлічыць яшчэ негуманізаванасць сістэмы пакаранняў, то пра сапраўдную абарону і захаванне правоў радавых грамадзян як такіх нам толькі застаецца марыць.

Лагічна напрошваецца тут і пытанне: хто нясе ў нас адказнасць за невыкананне законаў, хаця б тых, якія ёсць? Вядома, выканаўчая ўлада, да структур якой адносяцца і органы правапарадку і якая ў пэўных межах, дарэчы, немалых, мае паўнамоцтвы на свае прававыя акты.

Хацелася як лепш, а атрымалася, як заўсёды: вялікая Феміда (дзяржаўнага ўзроўню) з малой (у асобе рэгіянальнай) стварылі такую прававую рознагалосіцу, што простаму смяротнаму ў ёй ніколі не разабрацца. Ён застаецца яе заложнікам, бо пераважае імкненне праваахоўнікаў даць ледзь не кожнаму "па верхнюю заглушку". У нашых актах, якія рэгулююць нормы жыцця, як правіла, нормы строга не дазіруюцца — можна і так, і гэтак, і больш, і менш. Чаго б гэта ні тычылася — штрафаў ці тэрмінаў пазбаўлення волі.

Але вернемся да пытання адказнасці за невыкананне законаў. На мой погляд, яно адкрытае. На яго правільна адказаць можна толькі пытаннем: "Хіба можна аб гэтым пытаць, калі ў грамадстве ніхто ні на якім узроўні не вядзе прававога выхавання?" Сапраўды: унізе — улада цемры, наверсе — цемра ўлады. Прававое спасціжэнне ў некаторай ступені для кожнага з нас пачынаецца толькі ў выпадку, калі "заляцеў".

Напрошваецца класічнае пытанне: "Што рабіць?" Пачынаць спачатку! Адкінуўшы ілюзіі, нібы насіллем можна дабіцца ўсяго, вярнуцца да адзінага ў дадзенай сітуацыі выратавальнага здаровага сэнсу. Прыняўшы ў разлік, што чалавек — істота сацыяльная і цяпер вельмі "хворая", трэба лячыць яе знутры, а не шпатляваць балячкі толькі звонку. У памкненнях турмой яго перавыхаваць мы далёка не зойдзем. Нават тады, калі на дзесяць грамадзян будзе па адным міліцыянце.

Паводзіны людзей заўсёды былі і застаюцца адэкватнымі стану грамадства. А калі яно наскрозь — зверху да нізу — нямоглае, калі ў ім не ўлада закона, а закон улады, на паверхню ўсплывае тое, што мы і маем сёння, — слабасць улады. Уся яе цяперашняя атрыбутыка дэманструе якраз гэта. І яшчэ — боязь згубіць уладу.

Пакуль статыстычная справаздачнасць органаў правапарадку аб затрыманнях, раскрыццях і да т.п. будзе мерай іх дзейнасці, а прафілактычная работа па папярэджванні правапарушэнняў заставацца на ўзроўні школьнага факультатыву, датуль мы, простыя смяротныя, і будзем адчуваць сваю сацыяльную неабароненасць, а наша міліцыя — выступаць фіксатарам усё ўзрастаючай злачыннасці, палохаючы цяперашнія ўлады тымі паказчыкамі.

Кажуць, слабы той, хто не спадзяецца на сябе. Няхай і ва ўмовах цяперашняга сацыяльнага сіроцтва кожны думае пра лепшае, не губляе надзеі на тое, што калі-небудзь і мы зажывём, як людзі. Па-чалавечы да нас будуць ставіцца ўлады і наша міліцыя чэсна і дастойна стане з намі абыходзіцца, праяўляючы душэўную цеплыню і цярплівасць. Галоўнае — не забывацца, што ўсе мы людзі аднэй крыві, і не трэба прагнуць яе незалежна ад таго, пры ўладзе ты ці не, пры пагонах ці без іх, узброены ці з голым кулаком. Трэба набірацца розуму, думаць, спасцігаць простыя ісціны чалавечага жыцця. І вучыцца быць чалавекам. Жыццё позна ці рана расстаўляе ўсіх па сваіх месцах — справядліва і беспамылкова. Гэта нам, людзям, ад памылак аніяк. У аднаго ідзе галава кругам ад, можа, нават уяўнага поспеху ў кар'еры, службовага становішча; у другога — ад зайздрасці; трэці не можа ўтаймавацца, што сусед жыве лепш за яго; чацвёрты рвецца да ўлады, а яму яе не даюць, таму гатовы перагрызці горла кожнаму, хто патрапіць пад руку; наступны ці наступная — злуюцца ад нястачы. І так ледзь не ўсе ў хаатычным руху, неразбярысе, нервовым перанапале, ад чаго да глупства — адзін крок. Тут ужо без "маёй" міліцыі аніяк. Ну, а калі згадаць, што ў яе асяроддзі не меншае перанапружанне і такі ж хаатычны рух, то ці варта гаварыць аб нечым далей? Давайце проста паглядзім праўдзе ў вочы і прызнаем: не беражэм мы адзін другога, не шануем. Хутчэй здзекваемся. Што ж, калі мы такія неразумныя...

І апошняе. Магчыма, хтосьці не зусім зразумеў мэты майго роздуму і мяркуе — я за міліцыю ці супраць яе? Так, за! Толькі за сапраўды народную па яе сутнасці і мэтах. За такую, якая служыць народу, а не прыкрываецца лозунгамі аб гэтым. Якая не зневажае людзей у залежнасці ад павароту падзей, а сапраўды абараняе іх. Няхай яе будзе менш, але сапраўднай, годнай, чэснай, разумнай, падпарадкаванай у сваіх дзеяннях толькі закону і сумленню.

Такой, якой бы людзі не баяліся, а паважалі.

Такой, якая б заўсёды памятала, што яна — народны ўтрыманца, а не ўладны, як ёй сёння спрабуюць унушыць...

**Аркадзь КАРОТКІ.**

Мінск.

**Нельзя молчать**

# Верните мне деньги, за которые я смогу купить два малолитражных автомобиля

*Уважаемая редакция "Народной воли"!*

*Ни в одной государственной газете, куда я обращался, не была опубликована моя статья. Обидно, что столько у нас перестраховщиков.*

*В то же время содержание статьи отражает интересы многих тысяч людей пожилого возраста — ветеранов труда, бывших узников фашистских концлагерей и многих других категорий наших граждан, отдавших личные сбережения взаймы государству. Поэтому прошу "Народную волю" напечатать мою статью.*

**Автор.**

В годы так называемого "застоя" я выделил из личных сбережений, отдав взаймы государству крупную сумму денег — эквивалентную стоимости двух малолитражных легковых автомобилей. Рубль в то время был дороже доллара на десять процентов. И эту указанную денежную операцию совершил не на Комаровском рынке, как делается сейчас, а в государственном финансовом учреждении, оформив ее по всем правилам юриспруденции, о чем свидетельствуют имеющиеся у меня на руках документы.

Взамен денег я получил облигации Государственного внутреннего выигрышного займа 1982 года.

Для любознательных сограждан замечу: деньги мои — это не случайно найденный в чужом саду клад золотых монет царской чеканки. Я их заработал тяжелым трудом в условиях "развитого социализма" за многие годы. Притом государство платило мне, как стало известно сегодня, лишь треть заработка, а две трети забирало на создание социалистических "ценностей", на оказание "братской" интернациональной безвозмездной помощи странам Азии, Африки и Латинской Америки.

Когда я сам добровольно отдавал свои деньги взаймы государству, обменивая деньги на облигации, то правительство гарантировало мне их сохранность и строгое соблюдение условий займа. По существовавшим тогда условиям государство предоставляло мне право в любое время сдать облигации в Сберегательный банк и получить взамен деньги в сумме стопроцентной стоимости облигации.

Однако мои кредиторские права были вероломно нарушены распоряжением от 30 января 1992 года бывшего председателя Совета министров Республики Беларусь В.Кебича. Фактически на мои деньги в Сбербанке был наложен арест, поскольку этим распоряжением банковским работникам было запрещено совершение операций по облигациям займа 1982 года на неопределенный срок. Это распоряжение не было предварительно опубликовано в газетах, следовательно, оно содержало элементы секретности.

Операции по облигациям займа 1982 года совершались на основании принятого закона. Но насколько я сведущ в вопросах права, закон не может быть отменен, изменен или приостановлен подзаконным актом исполнительной власти в государстве, где действует Конституция и работает парламент.

В результате деньги кредиторов государства — владельцев облигации займа 1982 года — длительный срок находились под арестом, а фактически использовались в денежном обращении при совершении банковских операций. Их выдавали в виде кредитов под высокий процент и обменивали на доллары. Когда уровень инфляции за этот период достиг рекордной десятитысячной отметки, правительство Республики Беларусь проявило "милость" к кредиторам. Оно разрешило обмен облигаций на деньги, установив при этом издевательски смешную цену.

За облигации займа 1982 года, сданные мною в Сбербанк на общую сумму стоимости двух легковых автомобилей, я получил взамен дензнаки, за которые можно купить в магазине всего два комплекта постельных принадлежностей, да и то недорогих.

Я оказался ограбленным... в особо крупных размерах. Отняв у меня и других граждан личные сбережения в виде облигаций займа 1982 года и облигаций целевого беспроцентного займа 1990 года, правительство злоупотребило властью, грубо нарушило гражданские права человека. Подобных аналогов ограбления правительством своих граждан в мирное время не было не только в странах Европы, но и в государствах Азии, Африки и Латинской Америки.

Наши люди старшего поколения хорошо помнят, что при проведении денежной реформы в 1947 году вклады населения в сбербанках и облигации займов переоценивались на значительно более льготных условиях, чем наличные деньги. Все займы, размещенные по подписке среди населения в 1947—1956 годах, были погашены. Все люди, имевшие на руках облигации государственных займов, получили за них деньги по номиналу облигаций.

Для оживления экономики государству нужна валюта. Из-за политической конфронтации в стране и отсутствия необходимой законодательной базы инвесторы к нам не спешат. Между тем население республики по разным каналам приобрело миллиардные суммы иностранной валюты.

По неполным данным, у наших граждан на руках имеется свыше двух миллиардов американских долларов и не меньшее количество немецких марок.

У нас, в Республике Беларусь, пока действует не закон, а чиновничий произвол. Поэтому люди, наученные горьким опытом потерь сбережений, отданных в виде займов государству, стали хранить валюту в более надежном месте. Как заметил известный сатирик, в стеклянной банке. Либо сдают ее на хранение в банки соседних государств. Нашей же экономике от этого не легче.

Именно в Беларуси тысячи граждан пожилого возраста, отдавших свои сбережения взаймы государству, теперь вынуждены обивать пороги судов, прокуратуры, Администрации президента, и везде им говорят: "Осади назад!"

Есть среди пострадавших и другая категория граждан — обманутые вкладчики. Это люди, которые отдали свои деньги не в государственную казну на хранение, а белорусским мавроди под соблазн высоких процентов получения прибыли. Обманутыми вкладчиками оказались люди не из тмутаракани или деревни Глуша, а грамотные жители нашей столицы — экономисты, юристы, преподаватели, бизнесмены, торговцы-челноки. Поэтому они не пошли в суды с исками, заранее зная конечный судебный результат.

Эти "пострадавшие" **избрали более надежный путь: организованно стали под коммерческое знамя бизнесмена И.П.Клюева, который пытается использовать созданное им объединение пострадавших вкладчиков как таран с целью выбить у правительства льготный кредит. А кредиты, как известно, выдаются не из личных карманов чиновников, а за счет нас, налогоплательщиков.**

Между тем не все пострадавшие имеют одинаковый юридический статус. Владельцы облигаций государственных займов отдали деньги взаймы государству. Следовательно, их правовые отношения должны базироваться на прочном фундаменте закона.

Граждане, доверившие свои накопления коммерческим финансовым компаниям, фактически добровольно участвовали в сомнительной азартной игре, и проиграли не государственным организациям, а частным коммерсантам. Поэтому им не следует бранить якобы "враждебно" настроенных к ним чиновников государственных учреждений.

23 октября 1996 года появился указ президента, которым под покровительство взята не та категория граждан — владельцев облигаций госзаймов, деньги которых ушли на пользу всего общества, а тех, кто в погоне за большой прибылью вручил их коммерсантам.

Долг и обязанность руководителей страны — вернуть задолженность в первую очередь гражданам, у которых государство все же брало взаймы, а уже потом рассчитываться с теми, кто вложил деньги в "пирамиды". Да не за счет налогоплательщиков, а за счет мошенников и их покровителей, конфисковав на выплату компенсаций здания и имущество "пирамид".

Между тем в судах продолжаются затяжные изнурительные издевательства над инвалидами, участниками Великой Отечественной войны, ветеранами труда, бывшими узниками фашистских концлагерей, над теми, кто имеет смелость обратиться в суд с исковыми заявлениями к Совету министров Республики Беларусь о возмещении ущерба, причиненного арестом облигаций Госзайма 1982 года и выплаты компенсаций за облигации целевого займа 1990 года.

Судебные решения с отказом возмещения убытков гражданам, пострадавшим от собственного правительства, судьи заполняют обширным словесно-текстовым балластом, не имеющим отношения к юридическому обоснованию причины отказа. Они демонстрируют свою безучастность к обдираловке людей государством.

Понятно, это делается не без участия тех, кто сегодня у власти. Все помнят обещания А.Лукашенко вернуть людям деньги, отданные государству в виде займов. Почему, Александр Григорьевич, Вы забыли о своих словах? Неужели Вы думаете, что мы останемся сыты Вашими обещаниями? Если Вы хозяин своего слова, то скажите честно: когда государство вернет нам долги? В противном случае никогда больше не рассчитывайте на нашу поддержку.

**Владимир ШАКУТИН,**
**участник Великой Отечественной войны,**
**заместитель председателя правления белорусского объединения бывших жертв фашизма "Лёс".**

**Ну и ну!**

# Кто на что учился?..

Совсем недавно сдана в эксплуатацию автомобильная развязка в двух уровнях в обход Гомеля. И дорога хороша, и построена она в срок, но, как всегда, недоглядели малость. Каждый вот такой указатель стоит больше полумиллиона рублей, а надпись на нем надо бы сделать пограмотнее. Это же не на заборе...

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

**Жизнь, как ее видит журналист Анна СОУСЬ**

# Не надо грязи...

...Какая грязь вокруг. Грязное месиво начала зимы. Этот противный песочно-солевый налет мы смываем каждый день со своих ботинок, возвратившись домой. И почему-то именно в начале зимы так явственно видна бесконечная грязь наших улиц...

Грязный снег. Грязные стоптанные ботинки. Грязь под облезшим ярким лаком подвыпившей продавщицы-лоточницы. Грязные сально-перхотные волосы уставшего работяги, который, прислонив голову к запотевшему троллейбусному стеклу в усталой дремоте, едет домой. Грязь несмытой с вечера косметики на лице разухабистой девицы, которая, потирая рукой заспанные глаза, предается ночным воспоминаниям...

В общественном транспорте даже начинает кружиться голова от грязной вони нечистого белья, которая чувствуется у некоторых даже сквозь верхнюю одежду. Порой она перемешивается с отвратительным зловонием перегара. Это природный запах наших автобусов, трамваев, троллейбусов. К нему часто добавляется вонь рвотных отбросов под сиденьями, которые уставшая безразличная "депошная" уборщица не заметила вечером.

А вечная грязь наших туалетов! Я не говорю уже о зловонии общественных сортиров, вместилищах всех возможных инфекций. Проще очистить Авгиевы конюшни, чем изменить традиционный совковый запах общественных туалетов. Да что там... Редкое учреждение, кафе, ресторан (за исключением очень дорогих — там, где хозяева "не наши") может похвастаться чистым воздухом своих клозетов...

Грязные дороги, грязные машины, грязные электрички, грязные подъезды, грязные мусоропроводы, грязные двери, грязные окна...

А впрочем, что это все в сравнении с грязными помыслами. С грязными словами — с привычным грязным матом или того же толка слащавой грязной ложью. Что они по сравнению с грязными мыслями завистливой подруги или сексуально закомплексованного мужчины-"середнячка". Красивыми словами и одновременно грязными мыслями демагога-политика.

Что такое внешняя нечистоплотность по сравнению с нечистоплотностью нравственной? Можно вычистить грязь из-под ногтей, помыть голову, отчистить костюм, но как "отмыться" от лживого обвинения, от несправедливых нападок, от публичных наветов?

В тюремных камерах матерые уголовники для того, чтобы унизить выбранного им "камерного" изгоя, могут испражниться ему на лицо. Да и место "петухов", а также всех других обиженных и униженных всегда там, возле параши — самого грязного места в тюрьме. Это самый примитивный способ "замарания" человеческого достоинства. Более изощренные, так называемые цивилизованные, способы "очернения" репутации пристойней по форме, но не менее, а порой и более жестоки...

"Облить с ног до головы грязью", "незапятнанная репутация", "прожить жизнь с чистой совестью" — сколько устойчивых выражений в нашем языке связано с понятиями грязного и чистого. Грязного навета и чистой совести, грязных разборок и чистосердечных разбирательств, грязных обвинений и чистой правды, грязных домогательств и чистой любви...

И, чтобы в этой жизни нам не замараться, начинать надо, казалось бы, с простого. Со свежего белья и утреннего душа, с вымытого туалета и белоснежной скатерти. Чистого тротуара и подогреваемых зимой городских дорог, которые не нужно посыпать солью и песком, разъедающими и нашу обувь, и наши машины. С чистоты собственной речи, за которой идут чистота и ясность мыслей, чистота желаний и стремлений. Не всегда, правда, внешняя чистота ведет к внутреннему очищению. Да и в грязи порой пробиваются светлые пятна...

Запорошило улицы белоснежным снежком. Прикрыта белым покрывалом вся видимая уличная грязь. Все кажется таким чистым и красивым... Но снег-то тает...

## Пуці трамвайныя ўкладваюць ваенныя

Практычна завершаны работы па рэканструкцыі трамвайных пуцей у Мінску, намечаныя на бягучы год.

Рамантавалі пуці дзве роты, якія дыслацыруюцца ў Слуцку і Жлобіне. Воінамі-чыгуначнікамі абноўлена 4 кіламетры трамвайных рэльсаў і ўкладзена 17 тысяч квадратных метраў бетоннай пліткі. Аднак гэтыя работы яшчэ не закончаны, а таму і ў наступным годзе ваеннаслужачыя чыгуначных войскаў прадоўжаць рамонт трамвайных пуцей.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Ці знойдзе вечны спакой у Беларусі прах Максіма Багдановіча?

Беларускі фонд культуры вырашыў ініцыіраваць перанос праху Максіма Багдановіча з Ялты ў Мінск. З прапановай звярнуцца наконт гэтага ва ўрад краіны выступіў старшыня праўлення фонду Уладзімір Гілеп на другой справаздачна-выбарнай канферэнцыі БФК.

Паводле слоў Уладзіміра Гілепа, усе юрыдычныя тонкасці гэтай акцыі былі адпрацаваны разам са спецыялістамі Міністэрства культуры Беларусі яшчэ пяць гадоў таму. Мінгарвыканкам нават выдзеліў месца, дзе мог бы быць перапахаваны прах паэта — паміж магіламі Янкі Купалы і Якуба Коласа на Ваенных могілках сталіцы. Аднак без урадавай падтрымкі справа застопарылася.

Як адзначыў старшыня праўлення БФК, цяпер надышоў час аб'яднання беларусаў на глебе нацыянальнай самасвядомасці. А ажыццяўленне такой высакароднай акцыі як нельга лепш будзе гэтаму садзейнічаць.

**Аксана ПІВАВАР.**

**Навіны Швецыі**

## Шведскіх вадзіцеляў чырвонае святло не палохае

Кожны дзень у Швецыі 175 тысяч вадзіцеляў едуць на чырвонае святло. Такія вынікі даследаванняў Дарожнага ўпраўлення краіны аб паводзінах удзельнікаў руху на скрыжаваннях, апублікаваныя ў газеце "Свенска дагбладэт". А горш за ўсіх сябе паводзяць вадзіцелі Стакгольма, 3,5 працэнта якіх кожны дзень парушаюць правілы. За што, зразумела, пазбаўляюцца вадзіцельскіх правоў.

**Інеса МОІН, БелТА.**

Стакгольм.

**Тэатральнае жыццё**

## Мінск, Кіеў, Львоў...

Два вядомыя тэатральныя калектывы — з Мінска і Кіева — запрасіў да сябе Львоўскі тэатр імя Марыі Занькавецкай на свята свайго 75-годдзя. Кіеўскі драматычны тэатр імя Івана Франко і наш, імя Янкі Купалы, пакажуць у Львове свае спектаклі. У складзе трупы купалаўцаў паехалі галоўны рэжысёр Валерый Раеўскі і дырэктар Генадзь Давыдзька. Дарэчы, гэта першае афіцыйнае падарожжа Г.Давыдзькі на пасадзе кіраўніка тэатра.

Купалаўцы вязуць у Львоў спектакль "Ідылія" паводле п'есы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Львоўскі драматычны тэатр імя Марыі Занькавецкай быў заснаваны ў 1922 годзе. На працягу далейшых васьмі гадоў ён ездзіў па гарадах і вёсках Украіны. Толькі пасля вызвалення краіны ў 1944 годзе тэатр нарэшце знайшоў прытулак у Львове.

**Андрэй АХМЕТШЫН.**

## Запрашэнне з'явіцца ў пракуратуру Мінска атрымала галоўны рэдактар недзяржаўнай газеты "Фемида-Nova"

Галоўны рэдактар недзяржаўнай беларускай газеты "Фемида-Nova" Ірына Сакалова атрымала запрашэнне з'явіцца ў пракуратуру Мінска ў зручны для яе час. І.Сакалова лічыць, што ў гарадской пракуратуры ёй, відаць, уручаць нейкую "паперу з папярэджаннем". Па яе словах, хаця цяперашняе выданне адышло ад асвятлення палітычных праблем (у адрозненне ад ранейшай "Фемиды"), адносіны ўладаў да "Фемиды-Nova" па-ранейшаму негатыўныя. Як стала вядома БелаПАН, Беларускі фонд прававога супрацоўніцтва выказаў гатоўнасць аказаць газеце юрыдычную падтрымку — мяркуецца, што разам з І.Сакаловай у пракуратуру адправіцца віцэ-прэзідэнт фонду Міхаіл Волчак.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

**Асцярожна, вірус!**

## На сёння ў Магілёўскай вобласці пражываюць 115 ВІЧ-інфіцыраваных

115 ВІЧ-інфіцыраваных пражываюць сёння на тэрыторыі Магілёўскай вобласці. 100 з іх адбываюць пакаранне ў папраўчых установах вобласці; астатнія пятнаццаць — жыхары Магілёва, Бабруйска, Горак і Хоцімска. Толькі двое ВІЧ-інфіцыраваных знаходзяцца непасрэдна ў стадыі хваробы, яшчэ адзін памёр на зыходзе мінулага года. У гэтым годзе ў вобласці зарэгістраваны 20 носьбітаў смяротнага вірусу. Урачы мяркуюць, што яшчэ як мінімум некалькі дзесяткаў чалавек проста не ведаюць аб гэтым.

**Аляксандр ПЯТРОВІЧ.**

## З 21 жніўня ў Гродзенскім СІЗО ўтрымліваецца гомельскі бард Андрэй Мельнікаў

Гарадская арганізацыя Беларускага народнага фронту Гомеля арганізавала збор ахвяраванняў для сям'і гомельскага барда Андрэя Мельнікава. 13 жніўня гэтага года ён быў затрыманы паблізу беларуска-літоўскай граніцы беларускімі пагранічнікамі і з 21 жніўня ўтрымліваецца ў Гродзенскім следчым ізалятары. Яму прад'яўлена абвінавачанне па артыкуле 80, частка 2, Крымінальнага кодэкса — "Незаконнае перасячэнне дзяржаўнай мяжы". Следства вядзе ўпраўленне КДБ па Гродзенскай вобласці. Здабыткам галоснасці дадзены факт стаў толькі днямі, паколькі афішыраваць арышт А.Мельнікава не хацела яго жонка — выкладчыца Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф.Скарыны, якая знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку з паўтарагадавалым сынам. А.Мельнікаў адмаўляе сваю віну і не жадае даваць паказанні без адваката. Яго абаронцам выступае Уладзімір Кісялевіч.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## Дэмаркацыя беларуска-літоўскай граніцы завяршаецца

*У будучым годзе на літоўска-беларускай граніцы пачне дзейнічаць абсталяванне сістэмы назірання, якое вырабляецца французскім канцэрнам "Томсон".*

Аб гэтым было аб'яўлена на праведзенай у Вільнюсе канферэнцыі "Ахова знешніх граніц Еўрасаюза пры інтэграцыі Балтыйскіх дзяржаў".

Прэзідэнт Літвы Альгірдас Бразаўскас, які выступіў на форуме, лічыць, што самае позняе ў першай палове 1999 года дэмаркацыя дзяржаўнай граніцы Літвы, акрамя граніцы з Расійскай Федэрацыяй, будзе завершана поўнасцю.

**ЭЛЬТА-БелТА.**

Вільнюс.

**Пратэст**

## Вызваліць з турмы школьніка

Савет Беларускай партыі працы заявіў рашучы пратэст з выпадку працяглага затрымання ў Жодзінскім СІЗО актывістаў "Маладога фронту" Аляксея Шыдлоўскага і шаснаццацігадовага школьніка адзінаццатага класа Вадзіма Лабковіча. Савет БПП патрабуе тэрмінова вызваліць падлетка Лабковіча, які да таго ж захварэў у камеры.

**Ігар КАВАЛЬЧУК.**

**Крымінал**

## У Мінску затрыманы фальшываманетчыкі

Супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі сумесна з калегамі з Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры Міністэрстве ўнутраных спраў затрымалі 28 лістапада ў Мінску групу грамадзян, якія мелі намер рэалізаваць на тэрыторыі рэспублікі буйную партыю фальшывых нямецкіх марак.

У адносінах да затрыманых заведзена крымінальная справа. Устанаўліваюцца ўсе ўдзельнікі проціпраўнай здзелкі.

## Замах на Расійскае пасольства ў Стакгольме

У дзве гадзіны ночы 1 снежня 24-гадовы мужчына з Расіі, які раней папрасіў прыстанішча ў Швецыі, пералез праз агароджу расійскага пасольства з каністрай бензіну. Пасля няўдалай спробы разбіць шкло і пранікнуць у будынак ён выліў бензін на адну з пасольскіх машын і падпаліўяе.

**Інеса МОІН, БелТА.**

Стакгольм.

